**У НУМАРЫ**


- Перамога Галіны Шчансновіч
- Маніфестацыя ў Берastaвіцы
- Беларусь на міжнароднай арэне
- Пра механізацыю і арганізацыю
- Хілімонаўская мудрасць
- Гумар пра дзяцей
- Песня «Dozwolone od lat osiemnastu»


# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 22 (744) ГОД XV БЕЛАСТОК 31 МАЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## НЕ АДНЫЯ ЎРОКІ

Вядома, для школьнай моладзі — урокі рэч найважнейшая. Але і школьная моладзь — гэта ж таксама людзі, а да таго — людзі маладыя. Таму ў моладзі, апрача ўрокаў, існуе свет гульняў, сяброўства, рознага роду індывідуальных зацікаўленняў. Зацікаўленні гэтыя і запатрабаванні стараюцца забяспечыць належным выхаваўчым зместам дзейнічаючыя ў школах маладзёжныя арганізацыі: гарцэрства, Саюз сацыялістычнай моладзі і Саюз сялянскай моладзі.

У Бельску існуе 8 школ сярэдняга тыпу. У школах гэтых большасць вучняў — гэта члены ЗМС і ЗМВ. Саюз сялянскай моладзі налічвае ў сярэдніх школах Бельска 16 гурткоў і 475 членаў, а Саюз вясковай моладзі — 19 гурткоў і 526 членаў. Абедзве арганізацыі вядуць сярод моладзі шматбаковую дзейнасць, мэта якой — выхаванне моладзі ў духу актыўнага заангажавання ў грамадскае жыццё. Дзейнасць гэтая мае разнастайныя формы. Адной з такіх форм з'яўляецца вучоба, але вучоба не ў відзе ўрокаў, падчас якіх вучні толькі слухаюць настаўніка, але ў форме дакладаў, якія падрыхтоўвае і чытае сама моладзь і над якімі потым гэтая моладзь дыскутуе. У кожным класным гуртку маладзёжнай арганізацыі адбываецца па некалькі такіх заняткаў у год.

Падобнай формай дзейнасці маладзёжных арганізацый з'яўляюцца так званыя Алімпіяды ведаў пра Польшчу і сучасны свет. У X Алімпіядзе, якая была прысвечана 25-годдзю Народнай Польшчы, у Бельску прыняло ўдзел 1658 вучняў, а ў XI Алімпіядзе, якая прысвечана была 100-ай гадавіне з дня нараджэння У. Леніна — прыняло ўдзел 1732 асобы. Алімпіяды гэтыя пры тым не з'яўляюцца аднаразовым, кароткатрывалым актам, у школах ідзе да

(Працяг на стар. 3)



*На тэхнічных занятках у бельскім беларускім ліцэі.* *Фота Цаф — Сянько.*

## ПЕРАМОГА ГАЛІНЫ ШЧАНСНОВІЧ

Сакольскі агляд драматычнай мастацкай самадзейнасці праходзіў у школе ў Астраўку. У гэтым годзе Сакольшчына пабіла ўсе свае рэкорды: аж 10 гурткоў запісалася да агляду. Выступіла 9. І можна хваліць праўленне павятовага аддзела БГКТ у Саколцы, што закруціліся, папрацавалі, развярнулі работу ў павеце, у выніку якой многа гурткоў актыўна пачало працаваць. За дзесяць гурткоў хваліць можна. Але і ўвагі свае пазволю сабе тут сказаць, бо лічу, што адна толькі пахвала ўсыпляе, крытыка, хоць бы і малая, будзіць са сну.

Дзве рэчы хачу пакрытыкаваць у сакольскім аглядзе драматычнай мастацкай самадзейнасці. 1) Арганізатары не зрабілі аніякай селекцыі гурткоў, якія да агляду прыступілі. Хто хацеў; той выступіў. А лепш было б менш, але лепшых. 2) У павятовым аглядзе памяшаліся ўсе гурткі: дарослых і школьнікаў. Вельмі не спадабалася мне тое, што школьныя гурткі іграюць тыя самыя, што і дарослыя п'есы. А вядома, большасць беларускіх п'ес, якія курсуюць па людзях, па зместу не падыходзяць абсалютна для школьнай сцэны. Тут каханне, але гэта яшчэ найменшая бяда. Тут вульгарная мова, якой карыстаюцца адмоўныя тыпы п'есы, тут гарэлка. Дзе там гарэлка! Проста п'янства! П'есы нашых радзімых аўтараў, якія ўваходзяць у рэпертуар мастацкага руху, ужо парываюць з гэтым кепскім налогам: пісаць у п'есе пра п'янства. Але старэйшыя п'есы поўны гэтай тэмы. Нібыта п'янства — добрая тэма для смеху. Можна і трэба патрабаваць ад п'есы, якая ставіцца драмгуртком, больш чым аднаго толькі смеху з п'яных.

Больш тут аднак хачу сказаць аб школьных пастаноўках беларускіх п'ес. Адна са школ у Сакольскім павеце выбрала сабе п'есу «Паўлінка». Я ўжо пісала калісьці, што гэта не найбольш адпаведная п'еса, і яна ні ў якім выпадку не надаецца да школ. А вось табе: маеце гадзіну часу, у якой вучні III, IV і V-га класаў іграюць на сцэне гэтую п'есу: кураць папяросы па-сапраўднаму, замест гарэлкі, праўда, п'юць ваду, але ў кілішках, закусваюць і па-сапраўднаму прытвараюцца п'янымі. Выглядаюць брыдка, неахайна, плююць на падлогу, брызгаюць ежай у час мовы, праклінаюць. Страшная гэтакая карціна!

Сумна мне зрабілася ад такога мастацкага грамадска-культурнага руху, таму і пішу аб гэтым. Знайсці хачу прыхільнікаў, якім бы па такой прычыне таксама балела сэрца. Знайсці хачу людзей, — прыхільнікаў сапраўднай культурнай працы, якая і вывела чалавецтва

Працяг на стар.4

## БГКТ ХРОНІКА

■ Этнаграфічная камісія ГП 12 мая абмеркавала справы, звязаныя са зборкай і апрацоўкай беларускага фальклору пры дапамозе студэнтаў беларускай філалогіі, а таксама справы, звязаныя з забеспячэннем фатаграфічнай дакументацыяй будынкаў-помнікаў беларускай культуры.

■ Галоўнай тэмай пасяджэння прэзідыума ГП, якое адбылося 13 мая, была ацэнка ролі «Нівы» ў беларускім асяроддзі. Прэзідыум ГП прызнаў таксама за культурную дзейнасць узнагароду для Эдварда Рудніцкага з Сухініч, Тэклі Вашчук з Мілейчыц і Валі Андрэюк з Рыбалаў.

■ З нагоды Дзён асветы, кніжкі і друку журналісты «Нівы» Міхась Хмялеўскі, Уладзімір Паўлючук, Вера Леўчук і Сакрат Яновіч 14 мая правялі сустрэчу ў школах і клубах «Руху» — у Старым Корніне, Койлах, Кленіках і Новым Беразове. У гэты ж дзень на вясковым сходзе ў Карыціскаx прысутнічала каля 100 асоб. Міхась Хмялеўскі расказаў прысутным аб ролі і задачах беларускага таварыства і органе ГП БГКТ «Ніве». Удзельнікі сходу пастанавілі ўтварыць гурток. Дэкларацыі БГКТ падпісала 29 асоб. У склад праўлення гуртка БГКТ былі выбраны: Рыгор Томчук — старшыня, Вася Кудэрскі — сакратар, Ніна Троц — скарбнік.

■ 16 мая ў Беластоку на ўрачыстасці, прысвечанай дню дзеяча культуры, кіраўнік эстрады «Лявоніхі» Янка Крупа атрымаў адзнаку «Заслужаны дзеяч культуры», а член ГП з Семяноўкі Юрка Кіслы грашовую ўзнагароду кіраўніка аддзела культуры ВРН. (мх)

*Данута Бічэль-Загнетава*

### СЫНЫ

Пуцаты смехунок, сама даброта.
Уласнай ножкай цягнецца да рота.
Гумоваму казлу казыча ў носе —
А колькі радасці бацькам прыносіць!
Яму пакуль бяспечна каля маці,
Утульна, як у коласе зярняці.
Хварэе маці, калі ён не спаў,
Дрыжыць, каб волас з галавы яго не спаў.
Ёй лыжка кашы супакою не дае,
Калі ён гэтай лыжкі не даеў.

А ўжо жартуе дзядзька барадаты:
— Таўсцей!
Патрэбны дужыя салдаты.
Мяне аж скаланула згадкаю нямой:
О, сын!
Яшчэ грудны, а ўжо не мой.

Мацней за ўсё ў жыцці шкадую сына.
Шаную сцежкі, па якіх яго насіла, —
Па сцежках
Сын на ножках пабяжыць
Лавіць са стрэх
Прадвеснем
Капяжы.
Вітаю я лагодную зіму,
Што першы пухавік дала яму,
Гару — гарэзу-цётку ў белай хусце,
Што сына стрымгалоў на санках спусціць,
І цётку асцярожную — нізіну,
Што свой прыпол у час падставіць сыну
І за руку да маткі прывядзе.
Люблю зямлю,
Бо тут мой сын расце.

І храбрыя лаўцы — яго сябры —
Бы зайку, ловяць рэха па бары.



**Бясклапотнай усмешкі, многа сонца і цікавых прыгод у лесе жадае ўсім дзецям з нагоды іх свята наша рэдакцыя.**

Шкадую іх да болесці, як маці.
Яны майго сынка зямныя брацці.
Як многа ў мяне сыноў —
Гарластых пузаноў,
Зацесных паўзуноў!
Адзін дзіцячы сад —
Уся Зямля!
Іх трэба накарміць і залюляць,
І звонка
Ранкам
На руках пагушкаць:
Ім падабаецца успырхнуць птушкай
І, зноў ператварыўшыся ў дзіця,
Папесціцца пры матчыных грудзях.

Я шыю, мыю, думаю, чытаю.
Тады мае сыны мяне чакаюць.
Трывожуся за іх у гэты час:
Яны адны,
Яны не на вачах.
Хаця б не глянулі на іх ліхія вочы,
Хаця б ніхто не скрыўдзіў,
Не сурочыў
Маёй душы балесную часцінку —
Цябе, мой сынку.

А недзе на паўвостраве далёкім
Смяртэльны град спадае на далонькі
І косіць,
Косіць,
Нібы град калоссе,
Людскія лёсы.
Там ноччу глушаць соннае дзіця,
На сэрцах матак высякаюць мету...
Я заклінаю мудрую планету —
Радзіцельку кахання і жыцця:
Няхай Марылін лёс яе міне!
Няхай мой сын перажыве мяне.

*(З цыкла «Няхай мой сын перажыве мяне» — зборнік «Запалянкі»)*



Ідзе беластоцкая калона.



Хлеб і соль падносяць беларускім сябрам члены калектыву «Курпе Зелёнэ»



Усё накіроўваюцца да падрыхтаванай трыбуны. У першым радзе (злева направа): І. Мікуловіч, А. Лашэвіч М. Малочка і С. Жмійка.



Удзельнікі мітынгу.

# МАНІФЕСТАЦЫЯ Ў БЕРАСТАВІЦЫ

У нядзелю 10-га мая ў Берастав і цы, на тэрыторыі Савецкай Беларусі, адбылася вялікая маніфестацыя дружбы насельніцтва Беластоцкага ваяводства і Гродзенскай вобласці, арганізаваная з нагоды 25-ай гадавіны перамогі над фашысцкай Германіяй.

У лясочку на шашы, згодна з праграмай спаткання, у 10 гадзін раніцы сустрэліся дзве калоны насельніцтва Гродзеншчыны і Беласточчыны. Наперадзе калоны кіраўніцтва на чале з першым сакратаром ВК ПАРП у Беластоку А. Лашэвічам і старшынёй ВРН С. Жмійка, а таксама першым сакратаром КПБ у Гродне І. Мікуловічам і старшынёй Аблвыканкома ў Гродне М. Малочка. Пры сустрэчы і кароткіх прывітальных словах наступае абмен хлебам і соллю, уручэнне кветак і сардэчныя поціскі рук. З музыкай аркестра ўсе накіроўваюцца да спецыяльна падрыхтаванай трыбуны. Як гаспадар Гродзеншчыны, адкрывае мітынг М. Малочка. Аркестр выконвае гімны: Польшчы, Савецкага Саюза і Савецкай Беларусі. З прамовай на беларускай мове выступае І. Мікуловіч. Віншуе ўсіх ён з 25-ай гадавінай перамогі, гаворыць аб тым, як у баях гартавалася дружба польскага і савецкага народаў, а таксама многа сардэчных слоў у адрас жыхароў Беласточчыны. Па яго прапанове хвілінай цішыні ўшаноўваецца памяць аб тых, якія загінулі і не дачакаліся заканчэння вайны. Закончыўшы сваё выступленне, І. Мікуловіч уручае А. Лашэвічу дыван (габелін) з вышытай постаццю Леніна.

А. Лашэвіч у сваёй прамове гаворыць аб цяжкай дарозе да перамогі, якая вяла праз смерць і мукі, аб вернасці ідэям Леніна. Уручыў ён таксама сувенір — статуэтку варшаўскай «Нікэ».

Далейшымі прамоўцамі былі прадстаўнікі Польскага Войска і Савецкай Арміі — генералы Зыгмунт Гушча і Уладзімір Макараў і, прадстаўнікі маладзёжных арганізацый — Ванда Манько і Барыс Магафонаў.

Удзельнікі мітынгу прымаюць рэзалюцыю, змест якой: мір, дружба, абавязацельствы ажыццяўляць ідэі Леніна. Мітынг канчаецца. Аркестр іграе інтэрнацыянал. Затым некальк і сот чалавек аўтобусамі едзе пад вёску Цецяроўку, дзе стаіць помнік людзям, аддаўшым жыццё падчас вайны з нямецкімі захопнікамі. Тут адбываецца «апэль палеглых» і рэквіем. Прадстаўнікі Войска Польскага і Савецкай Арміі надзвычай прыгожым і хвалюючым да слёз спосабам ушаноўваюць памяць аб загінуўшых. Тут, пры помніку, дэлегацыі Беласточчыны і Гродзеншчыны ўзлажылі вянкі і тут жа зараз прагучэлі залпы ганаровага салюта. Тут на шашы, пры помніку, адбыўся таксама вельмі прыгожы вайсковы парад падраздзяленняў польскіх і савецкіх войск.

Аўтобусамі ў Бераставіцкі лясок усе мы вярнуліся назад, і тады распачаліся мастацкія выступленні калектываў песні і танца «Курпяў Зялёных» з Беластока і «Нёмана» з Гродна.

Вельмі важнай часткай урачыстасці былі спатканні знаёмых, сваякоў, прадстаўнікоў арганізацый і прадпрыемстваў, якія супрацоўнічаюць паміж сабою. Надзвычай сардэчна гродзенцы прымалі жыхароў Беласточчыны. Паасобныя прадстаўнікі раёнаў прымалі прадстаўнікоў паветаў, журналісты Гродзеншчыны частавалі журналістаў з Беластока і г.д. Завязаліся новыя знаёмствы, запісваліся адрасы.

Сямейныя спатканні былі таксама надта сардэчнымі. Сустрэча ў Бераставіцы была вельмі добра арганізавана савецкімі сябрамі. Яна назаўсёды застанецца ў памяці і прычыніцца да цяснейшага, глыбейшага супрацоўніцтва.

**Міхась Хмялеўскі**

Фота *Цаф — Сянько*



Падарунак гродзенцаў.



Гатовы да параду.



Дзяўчаты з гродзенскага ансамбля «Нёман».



У сямейных абставінах...

# НЕ АДНЫ ЎРОКІ

Пачатак на стар. 1

іх даўжэйшы час салідная падрыхтоўка — моладзь наладжвае сходы, сустрэчы, дыскусіі, праводзіць размовы з дзеячамі і прадстаўнікамі адміністрацыйных улад.

Галінай асаблівага зацікаўлення моладзі была заўсёды палітыка. Маладзёжныя арганізацыі Бельска ведаюць аб гэтым. У тэхнікуме сельскагаспадарчага рахункаводства моладзь арганізавала гурток маладых палітыкаў, які на сваіх сходах дыскутуе аб найважнейшых падзеях міжнароднай палітыкі, а ў ліцэі з беларускай мовай навучання вядзецца агульны грамадска-палітычны курс, у рамках якога раз у месяц адбываюцца сустрэчы моладзі ўсяе школы. Дыскутуюць на іх аб найважнейшых падзеях у Польшчы і за мяжою.

Іншым метадам працы маладзёжных арганізацый з'яўляюцца папулярна-навуковыя сесіі. У папярэднім навучальным годзе ў школах Бельска адбылося аж 12 такіх сесій. Прачытана на іх было 37 дакладаў. Карысць была падвойная: — навучальная і выхаваўчая. Моладзь вучыцца, слухаючы даклады і дыскутуючы над імі, перш за ўсё аднак вучыцца, апрацоўваючы паасобныя тэмы, самастойна працаваць і думаць. Сесіі пры тым не канчаліся на дакладах і дыскусіі; на заканчэнне моладзь найчасцей выступала са свайго роду «мастацкай часткай», тэматычна звязанай з сесіяй.

Хаця галоўная мэта маладзёжных арганізацый — даць моладзі магчымасць праяўляць сваю актыўнасць у няшкольных формах працы, арганізацыі гэтыя цікавяцца таксама і вынікамі вучобы сваіх членаў. У кожным квартале адбываюцца сходы класных гурткоў паасобных маладзёжных арганізацый, на якіх аналізуюцца вынікі вучобы. У кожным класе ёсць вучні мацнейшыя і слабейшыя — гэта ж рэч нармальная. Маладзёжная арганізацыя імкнецца дапамагчы слабейшым. Памагаюць калегі, якія дасягаюць выдатных вынікаў па акрэсленаму прадмету.

Адным з істотных элементаў дзейнасці маладзёжных арганізацый з'яўляецца выхаванне працай. Маю на думцы супольную, арганізаваную працу моладзі для супольнай, грамадскай карысці. Працы гэтай у моладзі многа, — асабліва вясною і восенню: упарадкаванне паркаў, сквераў, прац грамадскім атрады працы (ОГП). У мінулым годзе ў ОГП выехала з бельскіх школ 185 чынам пры перабудове вуліц і г.д. Улетку моладзь выязджае ў добраахвотныя вучняў.

Праца маладзёжных арганізацый у цэласці не заўсёды задавальняе моладзь, наракаюць на яе часта старэйшыя. Не заўсёды знаходзяць яны адпаведны выхаваўчы змест і адпаведную форму працы ў асяроддзі сялянскай ці рабочай моладзі. Але ў школе маладзёжныя арганізацыі сталі неадлучным элементам выхаваўчага працэса, дапамагаючы моладзі зразумець сваё месца ў грамадстве.

*Ул. Паўлючук*

Пачатак на стар. 1

# ПЕРАМОГА ГАЛІНЫ ШЧАНСНОВІЧ

з першабытнасці ў краіну светлага розуму, чыстага цела, чыстай кватэры, чыстай школьнай падлогі, амбітнага духа, вялікіх і прыгожых мэт!

Выступіла з Сакольскага павета 9 драмгурткоў. З іх 5 са школьнай моладзі: з Паўднёвага Вострава, Гуран, Кнышэвіч, Сухініч, Астраўка. Толькі адзін школьны гурток з Гуран прадставіўся як сапраўдны школьны гурток. І аб ім пахвалы пару слоў. Гэта вельмі добры школьны гурток. На павятовым аглядзе паставіў невялічкую п'есу, якая называецца «Выкруціўся». Гісторыя пра шустрага інтэлігентнага хлапчука пятага класа, які крыху круціўмуціў перад роднай бабкай. Ды кій мае два канцы, і Ромкава крутня дрэнна скончылася для яго самога. Але ён раз назаўсёды навучыўся гаварыць бабцы і ўсім іншым праўду. П'еска выхаваўчая, на школьную тэму. Невялікі гурток з Гуран, якім ужо доўгія гады кіруе нас-



*На сцэне — Сухінічы.*

таўніца беларускай мовы Тамара Паплаўская, працуе з вялікай інтэлігенцыяй. Дзеці маюць чыстую, выразную і прыгожую мову, прыемныя рухі, свабоду на сцэне, яны акуратна, як школьнікі, адзеты. Нават талентам можна назваць Юрку Карповіча, які іграў ролю Ромкі. Паўліка, яго сябру, іграў Тадэк Гудалеўскі, Лену, паслухмяную сястрычку Ромкі, Ганя Часновіч, а іхнюю бабку Ліля Пракапчук. Пра іншыя школьныя гурткі з Сакольшчыны столькі добрага сказаць нельга. Кепскі рэпертуар прымаюць яны на свой мастацкі варштат.

Гурткі дарослай моладзі ўсе някепскія. Першае месца здабыў тут здольны гурток з вёскі Сухінічы, які працуе пад кіраўніцтвам Эдуарда Рудніцкага, мясцовага гаспадара. Эдуард Рудніцкі сам таксама прымае ўдзел у п'есах і ролі свае выконвае, як прафесіянальны акцёр.

У час агляду сядзела каля мяне сімпатычная дзяўчына з вялікімі вачыма. Увесь час хвалявалася. Разгаварыліся мы, аказалася, — яна з сухініцкага гуртка і хвалюецца гэтак на вырост, бо іхні гурток будзе яшчэ толькі выступаць. Вельмі прыемна ішла размова. Дзяўчына завецца Галіна Шчансновіч. Запрашала ў сваю вёску: «Да мяне прыходзьце, знойдзеце хутка, я ў клубе стаю». А потым расказала пра іхні драмгурток. У мінулым годзе яны занялі ў беларускім аглядзе I месца, выступілі ў Беластоку. Тым больш цяпер баяцца, бо мала часу мелі на падрыхтоўку новай п'есы. Кіраўнік казаў, каб нават не прымаць удзелу ў павятовым аглядзе, але настаяла яна, Галіна, і прыехалі. Што будзе?

Калі аб'явілі аб выступленні сухініцкага гуртка, ззаду, у забітай людзьмі зале, я пачула першыя воплескі і словы: «У Сухінічах, там файна маладзёж».

Бадай, не толькі з волі журы, але таксама і публікі, Сухінічы здабылі I месца. Галіна Шчансновіч трыумфавала. Яна іграла галоўную ролю ў п'есе «Люцынка-інжынерыха» Сакрата Яновіча.

Пра другую ўзнагароду сакольскага агляду таксама варта крыху расказаць, бо Слоя вельмі мала адставала ад Сухініч. Перш за ўсё пахваліць трэба гурток са Слоі за вельмі культурную ігру і паставу. Тут было тое, чаго цяпер ад аматарскага руху патрабуюць: як найменш лішняй мітусні на сцэне і крыку, а як найбольш сказанага добра з унутраным перакананнем слова. За слова даю Слоі пяцёрку. Слоя ставіла не публікаваную п'есу С. Яновіча «Старыя». І п'еса гэтая выдалася мне куды лепшай ад ягонай «Люцынкі-інжынерыхі», апублікаванай у новым зборніку п'ес, выдадзеным БГКТ. Тэмай, кліматам, мовай, сітуацыяй гэтая п'еса Яновіча сядзіць моцна ў нашых рэаліях, у той час, як «Люцынка-інжынерыха» здаецца штучнаватай. Здымкі для «Нівы» зрабіў настаўнік астроўскай школы, Вінцэнты Шаркоўскі. Дзякуем сардэчна і з прыемнасцю прадстаўляем усім чытачам «Нівы» два найлепшыя драмгурткі з Сакольшчыны: Сухінічы і Слоі.

*Вера Леўчук*



*А гэта Слоя.*




«Дзякуем за шчаслівае дзяцінства» (з Першамайскай дэманстрацыі ў Беластоку).

Фота *В. Касакоўскі*




## АБ САБЕ і АБ ІНШЫХ

*1. Ян Чыквін. Іду. Выдавецтва ГП БГКТ, Беласток, 1969 г., с. 88.*

*2. Ян Чыквін. Святая студня. Выдавецтва ГП БГКТ, Беласток 1970, с. 50.*

Самы моцны бок зборнікаў — лірычнае адлюстраванне роднай прыроды, да якой аўтар звяртаецца, як да самага блізкага сябра.

Няхітрая, яна крые ў сабе нязвыклае хараство:

Вечарам духмяныя ўстаюць агароды,
Бярозы рукі апускаюць у крыніцы,
Чаромхі уецца неслухмяны водар,
Як віно, якога нельга ужо напіцца.
І галасы сяброў, і клёкат бусла
з клуні,
І лугі, дзе конскія пасуцца грывы,
І сон глыбокі ветру у палудзень,
І трава іржавая па-над абрывам...

Сіла лірыкі Яна Чыквіна заключаецца ў тым, што ў ёй пачуццё замілавання да родных мясцін выказваецца не абстрактна і рытарычна, а канкрэтна, у намацальных вобразах, праз карціны роднага пейзажу.

Плыве па рэчцы цёплы месяц,
Быццам на стол вясельны гуска,
Гармоніка і хлопца песня
За рэчкай ў вёсцы беларускай.

Родная прырода мае цудадзейныя якасці: яна з'яўляецца саўдзельніцай дум і пачуццяў чалавека. «Разам» з аўтарам перажывае і «жаўрук», які, раптоўна абарваўшы песню, «аб зямлю ўдарыўся юнацкім сэрцам», і Лазенкі, «зачараваныя падманам», і сонца, якое, перажываючы разам з аўтарам цішыню апусцеўшай вуліцы, «да плячэй маіх туліцца», і пажоўклыя лісці, якія не вытрымалі гэтай цішыні і «шапочаць» між сабой.

І зусім натуральнае жаданне аўтара раскрыць уласную душу перад прыродай.

Чакае вечара асенняя дарога,
Жоўраючы колам пясок у каляіне —
Дзяўчына выглядае дарагога,
Прытуліўшыся да цёплых успамінаў.
Вечар грудзі твае апыліць
Песняй, апаўшай з першай расою:
А мы гэту песню яшчэ не забылі,
Хоць смуткам у вочы нам соліць...

У першым зборніку Яна Чыквіна ёсць вершы, якія непасрэдна звязаны з грамадскім жыццём («Нам трэба слоў», «Дзяцінства за мною няспынна ідзе...», «О. як дрэнна спазніцца!»); яны, на жаль, не найлепшыя. У гэтых вершах аўтару не ўдалося арганічна спалучыць уласныя думкі і пачуцці, уласныя перажыванні з хвалюючымі грамадскасць праблемамі.

Відаць, убачыўшы некаторыя слабыя бакі гэтых вершаў, Ян Чыквін у далейшай сваёй творчасці свядома адмаўляецца ад таго, каб закранаць важныя, хвалюючыя грамадскасць праблемы, а шкода.

Адмаўляцца ў сваёй творчасці цалкам ад грамадскіх праблем, няма ніякага сэнсу, бо творчасць тады можа ператварыцца ва ўсхваленне вузкіх, толькі ўласных, каменных перажыванняў, што непазбежна прывядзе да аднастайнасці.

Вядома, што ўменне спалучыць уласныя думкі і пачуцці, уласныя перажыванні грамадскімі праблемамі прыходзіць не адразу. Гэта даецца нялёгка, і толькі няспынныя творчыя пошукі могуць даць станоўчыя вынікі. Сама ж паэзія ў такіх выпадках становіцца значна больш разнастайнай, багацейшай.

У зборніку «Іду» ў першым вершы, прысвечаным «Бацькам», сказана:

Я жыць хачу, як вы жылі:
Сярод палёў, звяроў і чыставоддзя,
Здалёк ад горадоў, машын
І цывілізаваных паводзін.

Наўрад ці можна згадзіцца з галоўнай думкай аўтара, выказанай у гэтых радках: адвечна вёска цягнулася і цягнецца да горада, а ў аўтара атрымалася наадварот.

Падкрэсленыя недахопы зборнікаў маюць усё ж прыватны характар, яны не прыніжаюць агульнай вартасці гэтых паэтычных твораў. А вартасці зборнікаў, безумоўна, перавышаюць іх недахопы.

Першы зборнік вершаў Яна Чыквіна «Іду» і другі «Святая студня» — словы, якія маюць на думцы жыватворчую крыніцу. Дык няхай жа гэтая крыніца будзе для Яна Чыквіна невычэрпнай, каб яна заспакоіла прагненне не толькі аўтара, але і яго чытачоў.

*Пётр Котаў*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# БЕЛАРУСЬ НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ

*Нам. міністра замежных спраў БССР*

**ШЭЛЬДАЎ А. М.**

З першых дзён Савецкай улады беларускі народ, як і ўсе народы краіны Саветаў, рашуча супрацьпаставіў імперыялістычнай палітыцы грабежніцкіх войнаў, прыгнечання і заняволення народаў ленінскую палітыку міру, абароны свабоды і незалежнасці народаў. У звароце Першага Усебеларускага з'езда Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў абвяшчалася: «Адчуваючы сваю непарыўную і цесную сувязь са змагаючымся пралетарыятам і працоўным сялянствам усяго свету, ад імя мільёнаў рабочых і сялян Беларусі — з'езд урачыста аб'яўляе сваю волю жыць у міры і дружбе з усімі народамі».

Ужо ў першыя гады свайго існавання БССР разам з РСФСР і УССР актыўна змагалася за ажыццяўленне распрацаваных У. І. Леніным і абвешчаных Вялікім Кастрычнікам прынцыпаў міру, роўнасці, дружбы і супрацоўніцтва паміж народамі і заключыла рад важных міжнародных пагадненняў, якія мелі сваёй мэтай забеспячэнне мірных умоў развіцця маладой Савецкай дзяржавы.

Новы этап у развіцці знешнепалітычных сувязей брацкіх савецкіх рэспублік, у тым ліку і БССР, настаў к канцу Вялікай Айчыннай вайны савецкага народа супраць фашысцкай Германіі. У адпаведнасці з прынятым Вярхоўным Саветам СССР Законам аб прадстаўленні саюзным рэспублікам паўнамоцтваў у галіне знешніх зносін у сакавіку 1944 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон аб утварэнні саюзна-рэспубліканскага Народнага Камісарыята замежных спраў БССР. У 1946 годзе ён быў пераўтваран у Міністэрства замежных спраў БССР.

Беларуская ССР, народ якой мужна змагаўся супраць фашысцкіх захопнікаў і прынёс велізарныя ахвяры ў барацьбе за збаўленне чалавецтва ад фашысцкага рабства, прыняла актыўны ўдзел у выпрацоўцы Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і стала адным з заснавальнікаў ААН. Прымаючы ўдзел у Парыжскай мірнай канферэнцыі і іншых міжнародных нарадах, БССР унесла свой уклад у справу пасляваеннага мірнага ўрэгулявання ў Еўропе, паслядоўна адстайваючы разам з дэлегацыямі СССР і УССР інтарэсы нашай краіны, абараняючы незалежнасць новых народна-дэмакратычных дзяржаў.

БССР, прымаючы актыўны ўдзел у рабоце ААН за мінулыя гады, значна расшырыла сваю дзейнасць ў яе розных органах. Рэспубліка ўдзельнічае ў Камісіі ААН па раззбраенню, Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па прамысловаму развіццю, Канферэнцыі ААН па гандлю і развіццю, Еўрапейскай Эканамічнай Камісіі і яе дапаможных органаў. БССР выбрана ў састаў Камісіі па сацыяльнаму развіццю, у Камісію па становішчу жанчын, у Камітэт па праграме і каардынацыі Эканамічнага і Сацыяльнага Савета ААН і інш.

Побач з удзелам у ААН, БССР з'яўляецца членам такіх буйных міжнародных арганізацый, як Міжнародная Арганізацыя Працы, Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях асветы, навукі і культуры, Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі, Міжнародны саюз электрасувязі, Сусветная метэаралагічная арганізацыя, Сусветны паштовы саюз, Міжнароднае бюро выставак і раду іншых. У пасляваенны перыяд дэлегацыі БССР удзельнічалі амаль у 600 міжнародных канферэнцыях, нарадах, сімпозіумах, якія праводзіліся па лініі міжнародных арганізацый.

У вострай і напружанай барацьбе ў ААН і іншых міжнародных арганізацыях БССР разам з іншымі сацыялістычнымі краінамі цвёрда адстойвае інтарэсы міру і сацыяльнага прагрэсу, актыўна выступае за змякчэнне міжнароднай напружанасці, за спыненне гонкі ўзбраенняў і ажыццяўленне раззбраення, за забарону зброі масавага паражэння, за поўную ліквідацыю каланіялізму і яго вынікаў, за выкананне неанацызму, і расавай дыскрымінацыі, за ўніверсальнасць членства ў міжнародных арганізацыях, за развіццё раўнапраўнага эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва, за захаванне правоў чалавека, за распрацоўку і захаванне прагрэсіўных норм міжнароднага права.

БССР энергічна выступае супраць разбойніцкай вайны амерыканскага імперыялізму ў В'етнаме і патрабуе пакласці канец агрэсіі ЗША ў Індакітаі. БССР рашуча асуджае ізраільскую агрэсію на Блізкім Усходзе і выступае на баку арабскіх народаў у абарону іх нацыянальнай незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці.

Разам з іншымі сацыялістычнымі краінамі БССР энергічна змагаецца за забеспячэнне еўрапейскай бяспекі, настойваючы на прыняцці мер да таго, каб не дапусціць адраджэння нацызму ў ФРГ, каб забяспечыць непахіснасць пасля-

ЗНЕШНЯЕ ЎПРЫГОЖВАННЕ ХАТ ПАЎДНЁВАГА ЎСХОДУ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ.

# ◆ АКНО ◆

У сучасных хатах акно ўпрыгожваецца пры дапамозе шалёўкі (абшыўкі), ліштваў і аканіц. Шалёўка выраблярецца гэблікам амаль усюды аднолькавай формы і замацоўваецца да сцяны і футрыны акна з трох бакоў. Зверху яна зарэзваецца пад вуглом 45, а знізу на яе месца даецца падаконнік. Па гэтым падаконніку сцякае з акна вада. Але ён таксама ўпрыгожваецца зубчыкамі, карнізамі.

Найбагацейшую разьбу мае верхняя ліштва, так званы надаконнік. З арнаментаў, геаметрычных фігур, элементаў раслін і жывёл укладваецца цэлая кампазіцыя, якая выпільваецца пілачкай з адной шырокай дошкі. Нейкія «іконастасікі», напамінаючыя форму трохвугольнага шчыта, не сустракаюцца. Аконная разьба выступае на многіх нашых папярэдніх фотаздымках. Паказваюць яе і тры чарговыя фотаздымкі. Дэкаратыўным дапаўненнем акна можна лічыць аканіцы, якія амаль ніколі не ўжываюцца да закрывання акон. Усе аканіцы двухстворкавыя, філянговыя, падзеленыя на тры або чатыры сегменты. Для падкрэслення філёнгаў, яны малююцца алейнымі фарбамі ясна-сіняга і цёмна-сіняга колераў.

*У. Юзвюк*
фота аўтара



*Акно хаты Бартламея Кудэка з вёскі Сабятына Бельскага павета.*



*Акно хаты Аляксандра Жукоўскага з вёскі Пілікі Бельскага павета.*



*Акно хаты Рыгора Чыжэўскага з вёскі Сабятына Бельскага павета.*

## ДНІ КНІЖКІ НА БЕЛЬШЧЫНЕ

У сувязі з Днямі асветы, кніжкі і друку павятовы аддзел Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Бельску наладзіў сустрэчы вучняў і дарослага насельніцтва з членамі Беларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа» Іванам Чыквіным і Сакратам Яновічам. 13 мая пабывалі яны ў Піліках, Кнарыдах, Красным Сяле, Нурцы і Снежках. Многія аматары іх творчасці куплялі кніжкі «Святая студня» і «Іду» Івана Чыквіна, том апавяданняў і аповесцей «Загоны» Сакрата Яновіча. Нашых аўтараў сардэчна вітала перш за ўсё моладзь. З асаблівым зацікаўленнем да іх творчасці аднесліся ў Красным Сяле і Нурцы.

(ся)

## НУРЭЦКАЯ ТВОРЧАСЦЬ

У прыгожым школьным будынку, у адным з яго класаў, цікавы куток мясцовай беларускай народнай творчасці вёскі Нурэц і ваколіцы: вышываны ручнік, вышыўкі, аздобы. Вучаніцы займаюцца таксама вышыўкай.

Гэты куток народнай творчасці з'яўляецца добрым прыкладам вязання працэсу навучання ў школе з развіваннем шырэйшых зацікаўленняў у вучняў да ўсяго роднага, да ўсяго свайго, без чаго не можа быць і гутаркі аб добрым грамадзянскім і эстэтычным выхаванні моладзі.

(ся)

## ВЫСТАЎКА Ў КРАСНЫМ СЯЛЕ

Вучні школы ў Красным Сяле, пад кіраўніцтвам настаўнікаў, наладзілі арыгінальную выстаўку дакументаў, якія ілюструюць гістарычнае мінулае апошняга трыццацігоддзя ваколіцы. Сярод дакументаў знаходзяцца пашпарты розных перыядаў, акупацкія «карткачкі», розныя абвесткі, ордэны і г.д. Сабраны яны сярод мясцовых людзей.

Аглядаючы гэтую выстаўку ў прасторнай зале, міжвольна думаеш, што некаторых дакументаў пазайздросціў бы нават Музей рэвалюцыйнага руху ў Беластоку. Рэдакцыя «Нівы» зацікавіла Музей гэтай выстаўкай, і неўзабаве выедуць туды спецыялісты, якія ацэняць гістарычную вартасць знойдзеных краснасельскімі вучнямі дакументаў. З другога боку, важная гэта выстаўка яшчэ і тым, што паказвае моладзі тыя часы, аб якіх ведае яна ўсяго толькі са школьных падручнікаў або з расказаў ветэранаў.

(ся)






Пасля выказванняў сакратара па сельскагаспадарчых справах Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку, тав. Станіслава Кудлы аб ажыццяўленні планаў прымянення штучных угнаенняў і аб жывёлагадоўлі — на гэты раз пастараемся перадаць чытачам яго заўвагі пра іншыя, вельмі істотныя для сельскай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства справы, а менавіта аб механізацыі і некаторых арганізацыйных праблемах сельскагаспадарчай вытворчасці.

Дык найперш...

### ПРА МЕХАНІЗАЦЫЮ

У гэтай галіне дабіліся мы даволі многа. Нельга забываць, ад якога ўзроўню пачалі мы нашы сацыялістычныя ператварэнні ў сельскай гаспадарцы, а пачалі мы іх, як ведаеце, ад сярпа і сахі — прынамсі тут, на Беласточчыне.

А трактар? Мне самому здаралася слухаць скаргі сялян, што нейкія «ужэнднікі» хочуць ім трактарам знішчыць поле, або вось такія шопаты: «Хто арэ трактарам, хлеб будзе есці вілкаю».

Сёння ўсё гэта адвярнулася ўверх нагамі: не мы селяніна падгаварваем, каб захацеў узяць трактар, а наадварот — селянін нам спакою не дае: чаму не прысылаеце трактар? Чаму іх замала? Паасобныя вёскі проста ваююць за прыдзел трактара. *Гэта вялікая справа.*

Аднак дагэтуль не ўдалося яшчэ пераадолець адносін гаспадароў да тэхнікі, якая апынулася ў іх руках. Усё яшчэ селянін гаворыць і думае: *гэта не маё, «казённае!»* Для прыкладу: у вёсцы нармальна ўсе ведаюць, у каго і калі трактарыст араў гурткоўскім трактарам, не маючы на гэта загаду і дазволу праўлення гуртка — проста «на лева». Ніхто аднак не адважыцца сказаць. Толькі калі пачнуць суседскую сварку...

У сельскагаспадарчых гуртках вельмі часта змяняюцца трактарысты. Гэта забойча ўплывае на стан і якасць гурткоўскай тэхнікі. Мы аднак не ў сілах штоколеч рабіць, каб спыніць гэты працэс. Трактарыстаў усюды патрабуюць. Дык яны і ўцякаюць з вёскі. Проста трэба болей спраўна наладзіць падрыхтоўку спецыялістаў. Механізатараў для сельскай гаспадаркі рыхтуюць нам тэхнікумы ў Міхалове, Супраслі і Сейнах. З гэтых школ выходзяць добра падрыхтаваныя спецыялісты з поўнай сярэдняй адукацыяй. Удалося нам дабіцца, каб Вышэйшая інжынерская школа ў Беластоку адкрыла факультэт па механізацыі сельскай гаспадаркі. Штогод будзе яна выпускаць больш дзесяці інжынераў-механізатараў. Гэта для Беластоцкага ваяводства вельмі істотная справа.

Механізацыя сельскай гаспадаркі — гэта не толькі абмалотачны агрэгат і трактар, значыць — малацьба і ворыва. А што з іншымі, не менш цяжкімі працамі, як для прыкладу: нарыхтоўка і раздача корму і вады для свіней, кароў, коней, вываз гною ды іншыя таму падобныя работы. Тут яшчэ шмат чаго выконваецца ў нас па метаду: «Эх, дубінушка, ухнем!»

Хацелася б заахвоціць сялян, каб заводзілі ў сябе так званую малую механізацыю, выкарыстоўваючы для гэтага электраэнергію.

### ПРА АРГАНІЗАЦЫЮ

Арганізатарамі сельскагаспадарчай вытворчасці лічым мы вясковых спецыялістаў, і зусім слушна. Зараз у грамадскіх радах Беласточчыны працуе звыш 600 спецыялістаў па сельскай гаспадарцы. Штогод сельскагаспадарчыя школы Беластоцкага ваяводства даюць нам больш-менш 700 выпускнікоў. Існуюць рэальныя шанцы, што варшаўская Галоўная школа сельскай гаспадаркі адкрые ў нас, у Беластоку, свой пастаянны філіял. Усё гэта абнадзейвае. Толькі нам трэба дабіцца таго, *каб аграном у вёсцы, як афіцэр у войску, лічыўся аўтарытэтнай асобай.*

Некалькі год таму назад на розных пасадах, асабліва ў адміністрацыі, сядзелі людзі, не падрыхтаваныя прафесіянальна да сваёй працы. Неабходна было весці іх за ручку, яны працавалі ад загаду да загаду. Сёння на адказных пасадах ужо ўсюды маем добрых спецыялістаў. Аднак засталася старая прывычка. Зноў замест думак многія чакаюць загаду, інструкцыі, ды яшчэ часта маюць прэтэнзіі, што атрымоўваюць заданні звыш, як ім здаецца, рэальных магчымасцей, вельмі спраўна вышукоўваюць тады так званыя аб'ектыўныя цяжкасці. Мы не будзем заводзіць гутарак пра тое, ці задач замнога, ці замала; мы толькі можам гаварыць як, якім спосабам гэтыя задачы выконваць. Хто не зможа, павінен уступіць месца іншым, якім пад сілу будуць цяжкія задачы.

*М. Нурэцкі*




Калісьці быў гурток Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Хілімонах на Дуброўшчыне. Актыўныя людзі, якія кіравалі гуртком, даўно выехалі. Гэта звычайны лёс усіх вёсак, дзе больш вартасны элемент зазвычай выцэджваецца ў гарады, у ананімнасць стотысячных цэнтраў гаспадаркі і культуры. Гурток у Хілімонах перастаў існаваць. Аднавілі яго 6-га мая, у Юр'еў дзень.

Была дыскусія. Звычайная дыскусія, у час якой заўсёды найбольш гаворыць хтосьці адзін. У кожным асяроддзі хтосьці адзін або двое задаюць тон. Такая логіка грамадскага жыцця і актыўнасці. У Хілімонах Уладзімір Кудзін сказаў прыблізна так: арганізацыя без правадыра — гэта не арганізацыя. Словы Кудзіна сталіся ўласнасцю Хілімонаў, іх мудрасцю.

З арганізацыяй сапраўды так — патрэбны правадыр, патрэбна кіраўнічая група. Гэта сцісла адпавядае істоце арганізацыі.

(У Хілімонах гаварылі прадстаўнікам Галоўнага праўлення БГКТ: вы прыехалі, вы падгаварылі нас стварыць гурток, і гэта вельмі добра; мы хочам гуртка, запішамся ўсе як адзін, але хочам вас пабачыць яшчэ раз, не хочам, каб наша сустрэча з вамі была першай і апошняй. Хілімонаўцы ведалі, што гавораць: так, пераважна, бывала ў часы кампанійнага стылю ў дзейнасці БГКТ, калі лічылася не актыўнасць, але лічба новых гурткоў. Гэта выглядала на нейкую ласку: дазваляем вам стварыць гурток, а што будзе ў ім, няхай вам баліць галава. Яна, галава гэта, балела, ды без дапамогі з цэнтра або ад павятовага аддзела ўсё канчалася найчасцей толькі тым болем галавы.

Але Кудзін меў глыбейшую рацыю: трэба выхоўваць у Хілімонах людзей з арганізацыйнымі здольнасцямі, кіраўнічую групу, якая задасць тон усяму гуртку. Не цэламу ж гуртку ездзіць з інтэрвенцыямі ў цэнтралю Беларускага таварыства, не цэламу ж гуртку шукаць патрэбных кантактаў, бо гэта проста немагчыма. Гурток цэлы павінен перад усім падтрымліваць сваіх кіраўнікоў, надзяліць іх даверам, стварыць атмасферу зразумення і падмогі. Гэта праўда, якую — добра разумеюць тыя, якія хочуць выкруціцца ад грамадскай дзейнасці. Такія людзі гавораць так: што ж, хлопцы і дзяўчаты, дзякую за выбар мяне на старшыню, але вынікі працы залежаць ад нас усіх; як пасцелемся, так і выспімся. Зманлівая праўда гэтых слоў відавочная на практыцы. Без старшыні, без праўлення, якое не хоча або не можа быць закваскаю, гурток нічога добрага не спячэ, ягоная дзейнасць будзе роўнай нулю, проста нічым, горбаю падпісаных дэкларацый без значэння.

Закваска, росчын, — вось адпаведныя назвы для праўлення. Калі так станецца, тады і павятовы аддзел, аказваецца, дапамагае такому гуртку, бо ж таксама хоча пахваліцца вынікамі працы. Тое, што ў Хілімонах гаварылі прадстаўнікам ГП БГКТ, праўдзівае толькі ў дачыненні да агульнай лініі дзейнасці Таварыства. А ў канкрэтным, хілімонаўскім выпадку, гэта рацыя абазначала б выручыць кагосьці ў Хілімонах, нават гамаваць рост мясцовага актыву.

Хілімонаўская закваска — гэта праўленне гуртка ў складзе: Лёнік Шчарбач (старшыня), Уладзімір Кудзін (сакратар) і Тадзік Януцік (скарбнік). Яны будуць пячы беларускі хлеб у гэтай забытай вёсцы. Прыедзем пакаштаваць.

(С. Я.)

ваенных граніц і трывалы мір у Еўропе. Рэальны шлях да гэтага адкрывае прапанова сацыялістычных краін аб скліканні агульнаеўрапейскай нарады па пытаннях бяспекі і супрацоўніцтва ўсіх еўрапейскіх дзяржаў.

БССР неаднаразова праяўляла ў міжнародных арганізацыях ініцыятыву ў пастаноўцы важных пытанняў і дабівалася прыняцця рашэнняў, якія служаць справе міру і міжнароднага супрацоўніцтва. У ліку такіх дакументаў — рэалізацыі ААН аб выдачы і пакаранні ваенных злачынцаў; аб міжнародным заахвочванні навуковых даследаванняў у галіне высвятлення прычын і лячэння ракавых захворванняў; рашэнне аб вывучэнні праблемы адтока капіталу з краін, якія развіваюцца; рэзалюцыя аб рэгуляванні ў удасканаленні падатковых сістэм у краінах, якія развіваюцца, і многія іншыя. Дэлегацыі БССР на XXI і XXII сесіях Генеральнай Асамблеі ААН з'яўляліся сааўтарамі рэзалюцый па пытанню аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі, а на XXIV сесіі — рэзалюцыі па пытанню аб забароне распрацоўкі, вытворчасці і накаплення хімічнай і бактэрыялагічнай (біялагічнай) зброі і яе знішчэнні.

Па ініцыятыве дэлегацый СССР, БССР і УССР на XV сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКО была прынята спецыяльная рэзалюцыя аб удзеле ЮНЕСКО ў святкаванні 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна.

БССР — удзельніца больш чым ста дваццаці міжнародных дагавораў, канвенцый і пагадненняў. У іх ліку — рад пагадненняў, заключаных з ПНР. БССР з'яўлялася ініцыятарам і арганізатарам шэрагу міжнародных семінараў і азнаямленчых паездак, праведзеных у рэспубліцы з удзелам ААН і іншых міжнародных арганізацый.

БССР актыўна ўдзельнічае ў дзейнасці савецкіх знешнегандлёвых эканамічных арганізацый. Шматлікія вырабы з маркай беларускіх заводаў і фабрык экспартуюцца больш чым у 80 дзяржаў, у тым ліку — амаль у 50 краін Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі, якія сталі на шлях развіцця.

Пастаянна развіваюцца і мацнеюць культурныя, навуковыя, спартыўныя і іншыя сувязі Беларусі з народамі зарубежных краін. Яны ажыццяўляюцца як па лініі дзяржаўных органаў, так і грамадскімі арганізацыямі.

Асаблівае месца ў гэтай галіне займаюць featureнабаковыя сяброўскія сувязі з сацыялістычнымі краінамі. Вельмі шырокія сувязі і кантакты ажыццяўляюцца з ПНР. Моцная дружба і супрацоўніцтва ўстанавіліся паміж Мінскай, Брэсцкай, Гродзенскай і Віцебскай абласцямі БССР і адпаведна Варшаўскім, Люблінскім, Беластоцкім і Зялёнагурскім ваяводствамі ПНР. Абмен вопытам камуністычнага і сацыялістычнага будаўніцтва ў самых розных галінах з'яўляецца галоўным зместам гэтых сувязей.

Выступаючы на міжнароднай арэне, Беларуская ССР уносіць свой дастойны ўклад у ажыццяўленне ленінскай знешняй палітыкі, якую праводзіць КПСС і Савецкі ўрад.

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

Варачы вясною суп, неабходна выкарыстаць як мага больш зеляніны. Вітаміны, якіх нам у апошні час так бракавала, павінны знаходзіцца на пачэсным месцы. Таму да кожнага супу добра было б дадаць зялёнай пятрушкі, лісткі салаты, а пазней — у сезоне — некалькі скрылёчкаў свежых памідораў ці агурка. Супы нашыя будуць больш каларыйныя, калі мы дададзім да іх, напрыклад, грэнкі, макароны, ці нейкія клёцкі.

Супы можна падрыхтаваць на булёне з мяса, ці гародніны. Можна іх запраўляць смятанаю, засмажкай з тлушчу і мукі, альбо проста свежым маслам.

Трэба памятаць, што калі мы запраўляем суп смятанай, смятаны нельга загатаваць. Адстаўшы суп з агню, дадаем невялікую колькасць крыху астуджанага супу да размешанай у місачцы смятаны, а памяшаўшы, уліваем гэта ва ўвесь суп. Тады смятана не адкіпіць.

Калі хочам, каб суп быў гусцейшы, запраўляем яго мукой, разведзенай малаком, і кіпяцім.

### 2 ВЕСНАВЫЯ СУПЫ

*Суп зялёны.* 1 галоўку салата, 1 пучок зялёнай пятрушкі, жменю шчаўя, крыху зялёнай цыбулькі і радыскі старанна абпаласкаць і дробна нарэзаць. Палову зеляніны палажыць на моцна разагрэтае масла і хвіліну смажыць, пасля чаго пералажыць гэта ў гарачы булён з мяса ці касцей.

Цяпер трэба зварыць яечкі «ў кашульках». Робім гэта так: асобна кожнае яечка выбіваем на чарпак, а пасля гэтага асцярожна выліваем яго на кіпячую ваду (да якой трэба дадаць крыху воцату і солі). Варыць яечкі 4—5 мінут, а вынуўшы з вады, адразу абпаласкаць халоднай вадой.

Тоненькія кромкі булкі абсмажыць у тлушчы. Палажыць па 2 грэнкі на кожнай талерцы, палажыць яечкі, перарэзаныя напалову, заліць супам, дадаць другую палову зеляніны, можна яшчэ пасыпаць суп цёртым жоўтым сырам.

Думаю, што аднаго такога супу хопіць на добры абед.

*Суп з маладой морквы.* Пучок маладой морквы, 1 маленькую цыбуліну і 1 бульбіну дробна нарэзаць і хвіліну смажыць у тлушчы, пасыпаўшы солью, перцам і галкай мушкаталовай. Уліць паўлітра малака і паўлітра вады (альбо вады крыху больш, калі суп атрымаецца занадта густы). Варыць паўгадзіны на вялікім агні пад крышкай. Працэдзіць суп з гароднінай праз сіта, заправіць чайнай лыжкай крухмалу, разведзенага невялікай колькасцю вады, і суп закіпяціць.

Адставіўшы з агню, дадаць паўшклянкі салодкай смятаны і пасыпаць дробна нарэзанай зелянінай.

Асобна да супу падаць грэнкі.

*Гаспадыня*



*Паштоўка з Мінска. Рэпетыцыя камернага аркестра вучняў Рэспубліканскай школы-інтэрната па-музыцы і выяўленчаму мастацтву.*




### ІЗРАІЛЬ ІДЗЕ НА АВАНТУРУ

Штодзённыя паведамленні газет аб сітуацыі над Суэцкім каналам паказваюць на тое, што ў ізраільска-арабскім канфлікце адбываюцца якасныя змены. Перамога Ізраіля над арабскімі арміямі пачынае каштаваць штораз даражэй. Нават да славутай вайны шасці дзён — агрэсіі Ізраіля супроць арабскіх краін — кожны грамадзянін Ізраіля плаціў такія падаткі, якія ў Еўропе здаліся б немагчымымі. Цяпер амаль палова заробленых ізраільцам грошай прызначаецца на патрэбы фронту. Сорак працэнтаў дзяржаўнага бюджэту забірае армія. Нягледзячы на вельмі вялікую дапамогу сіяніцкіх арганізацый, асабліва ў Амерыцы, фінансавая сітуацыя ізраільскай дзяржавы з году ў год штораз горшая. Змяншаецца вываз тавараў, палова рэзерваў Банка Ізраіля ўжо выдаткавана. Дэфіцыт дзяржавы ў плацёжным балансе перавышае дзевяцьсот мільёнаў долараў.

Ізраіль не ў сілах пакрываць бясконца вялізныя кошты абароны захопленых рубяжоў. Два з паловаю мільёны ізраільцаў ведае, што ў бліжэйшай будучыні неабходна нешта вырашыць. Але якое прыняць рашэнне?

Адна ізраільская гаўбіца, якая страляе толькі на працягу некалькіх хвілін у адказ на егіпецкую кананаду, наводзіць на кошт размерам да сямі тысяч заходненямецкіх марак. Рэзервісты штораз часцей вымушаны пакідаць працу ў фабрыках, што пры малых размерах рабочай сілы адбіваецца відавочным чынам на прадукцыі, на стварэнні нацыянальнага даходу. Кошты ўтрымання растуць, многія тавары каштуюць тут удвая або ўтрая даражэй, чым каштавалі б яны ў нармальных, мірных умовах.

Значна цяжэйшым ярмом кладуцца на плечы нацыянальнай ізраільскай эканомікі страты ў людзях на франтах. Гэты парумільёнавы народ не можа сабе дазволіць, каб гэтыя страты павялічваліся. Абазначаюць яны павольнае вынішчэнне найбольш вартаснай, найбольш працаздольнай часткі нацыі, — маладых мужчын. Штодзень газеты Ерусаліма і Тэль-Авіва змяшчаюць вялікую порцыю жалобных паведамленняў аб загінуўшых. Сотні і тысячы параненых ды забітых. Актыўная служба ў рэзерве перасунута з 49 года жыцця на 55 год. Кіраўнікі Ізраіля моцна разлічваюць на прыезд у Ізраіль вялікай колькасці імігрантаў з розных краін свету. У мінулым годзе прыбыло іх каля сарака тысяч асоб. Разам з тым наглядаюцца таксама выезды з Ізраіля тых, якія прыехалі сюды ў апошнія гады, або і раней.

Палітыка Ізраіля выразна накіравана на пераўтварэнне гэтай дзяржавы ў вялізны ваенны лагер, які добра прыслужыцца інтарэсам міжнароднага імперыялізму. Здзіўляе шаленства такой палітыкі, якая не можа мець стогадовых перспектыў. Супрацьстаўленне гэтых некалькіх мільёнаў ізраільцаў супроць амаль стомільённага арабскага грамадства прарочыць толькі катастрофу. У вайне з 1967 года Ізраіль захапіў тэрыторыю ўтрая большую, чым уся тэрыторыя ізраільскай дзяржавы. Акупацыя каштуе сотні мільёнаў грошай, а яе вынік — гэта нарастанне нацыянальна-вызваленчай вайны сярод арабскага насельніцтва, якое карыстаецца маральнай падтрымкай цэлага прагрэсіўнага свету, і якое — трэба дадаць — дыспануе непараўнальна большымі чалавечымі рэсурсамі. Падобнае на тое, што адзін ізраілец мае супроць сябе сто арабаў. Ізраільская перавага датычыць толькі ўзбраення, і перавага гэта не будзе доўгай.

Палітыка Ізраіля яўна авантурыстычная. Эксперты ізраільскай арміі заявілі, што ўжо закончаны работы над збудаваннем ракеты з нуклеарным узбраеннем. Разлічваецца, відаць, што гэты атамны шантаж паўстрымае волю арабскіх краін у іх барацьбе за вызваленне захопленых зямель. Не лічацца з тым, што такі курс у палітыцы можа давесці да выбуху вайны, якая можа аказацца апошняй наогул — вайны, пасля якой не будзе ні пераможаных, ні пераможцаў.

(а-ся)

## ЛЕКАР ПРЫРОДА

*Шыпшына*

Збіраць ягады шыпшыны трэба да наступлення поўнай спеласці, калі яны яшчэ цвёрдыя, але маюць ужо яркачырвоную або аранжавую афарбоўку. Ягады ўтрымліваюць вітаміны C, $B_2$, P, K, карацін, цукар, флаванавыя гліказіды, камферол і кварцэцін, арганічныя кіслоты. Асабліва ж каштоўнай сыравіна лічыцца таму, што ў ёй вялікая колькасць аскарбінавай кіслаты.

У медыцыне ягады шыпшыны ў выглядзе настою ўжываюць як вітамінны прэпарат у мэтах прафілактыкі і лячэння авітаміноза C. Плады шыпшыны выкарыстоўваюць таксама для вырабу прэпарата «Халасас», які ўжываюць пры халецысцытах, гепатытах і як жоўцегонны сродак.

У народнай медыцыне адвар ягад шыпшыны п'юць пры хваробах сэрца, печані і нырак, павышаным крывяным ціску і павышанай кіслотнасці страўніка.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

*Шкло — хамелеон*

Вядомая аптычная фірма «Шот» распрацавала рэцэпт вырабу шкла, якое мяняе здольнасць прапускаць святло ў залежнасці ад інтэнсіўнасці ультрафіялетавых праменняў. Пры яркім сонечным святле шкло імгненна цямнее, а ў цемнаце гэтак жа хутка святлее.

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...лясная чаромха — надзейны санітар. Галінкі чаромхі выдзяляюць фітанцыды. Апусціце такую галінку ў кубак, і праз некалькі хвілін піце ваду не баючыся нічога.



*Рэвізія праезджага араба на акупаванай ізраільскай тэрыторыі.*

## Чвэрць стагоддзя назад




### ЗАГАДКА, ЯКУЮ ТРЭБА БЫЛО РАЗГАДАЦЬ

Ці здагадаўся Адольф Гітлер, што пагражае яму ў немінучы час краху рэйха? З успамінаў тых, хто знаходзіўся ў апошнія дні ў бункеры імперскай канцылярыі, вядома: такія думкі ўсё больш адольвалі фюрэра нацысцкай імперыі, чым бліжэй ішла справа к канцу. Аднойчы ён сказаў, што не хоча папасці ў «рускі паноптыкум». Другі раз ён выказаў меркаванне, што рускія змесцяць яго «ў маскоўскі заапарк».

У Гітлера яўна не хватала фантазіі, каб уявіць сябе на лаве падсудных будучага міжнароднага трыбунала. Яго фантазія была аднабаковай: ён прывык бачыць сябе толькі ў ролі трыумфатара. Але настаў час адплаты. Няўхільна і заканамерна ён ішоў да тых, хто развязаў самую злачынную вайну. Тут ужо не маглі дапамагчы ні інтрыгі Рыбентропа, ні дэмагогія Гебельса, ні авіяцыя Герынга, ні ўся хвалёная прамудрасць германскага генеральнага штаба. Праўда, жыхары бункера не маглі бачыць чырвоны флаг, што ўзняўся над рэйхстагам, — але яны ведалі, што прыйшоў канец.

А калі гаварыць аб акалічнасцях гібелі самога Адольфа Гітлера, то вакол іх у пасляваенныя гады склалася асаблівая абстаноўка. Гэтымі акалічнасцямі займаліся многія сур'ёзныя аўтары гістарычных даследаванняў і несур'ёзныя аўтары сенсацыйных серый у заходніх ілюстраваных часопісах. У выніку справа не столькі праяснілася, колькі заблыталася. У сваёй працы, што стала на Захадзе класічнай, амерыканскі публіцыст Уільям Шырэр пісаў:

«З прычыны таго, што ад згарэлых трупаў не засталося і следу, пасля вайны пайшлі чуткі, быццам Гітлер жывы. Аднак розныя, паасобна праведзеныя даследаванні англійскай і амерыканскай разведкі, не пакідаюць сумнення ў факце смерці Гітлера. Бадай, Кемпка[1]) даў самыя пераканаўчыя тлумачэнні адсутнасці рэшткаў касцей. Ён сказаў на допыце: «Усе сляды былі знішчаны няспынным артылерыйскім агнём».

У сваю чаргу англійскі гісторык Алан Балак у фундаментальным даследаванні пра Гітлера канстатаваў:

«Так ніколі і не было ўстаноўлена — што здарылася з целамі, якія засталіся ў садзе імперскай канцылярыі. Зусім магчыма, што яны зніклі нейкім шляхам (бо звычайна адкрыты агонь пажырае чалавечае цела, пакідаючы сляды), і калі рускія ўзялі імперскую канцылярыю, то нічога нельга было знайсці... Аднак самым правільным бывае самае простае тлумачэнне. Невядома, ці зрабілі рускія стараннае расследаванне. Магчыма, што астанкі Адольфа Гітлера і яго жонкі змяшаліся з астанкамі іншых знойдзеных трупаў, тым больш што сад імперскай канцылярыі да яго захопу рускімі знаходзіўся пад пастаянным абстрэлам. Гэта пытанне не мела б значэння, калі б адсутнасць якіх-небудзь астанкаў не прывяла б да таго, што ўзнікла сумненне ў факце смерці Гітлера. Што правільна, то правільна — так і няма неабвержнага доказу ў выглядзе цела мёртвага Гітлера».

Справа дайшла да анекдотаў: з амерыканскага публіцыста Джона Толанда нават запрасілі мільён долараў, каб паведаміць яму месца, дзе цяпер хаваецца Гітлер — а іменна нідзе, акрамя як у Злучаных Штатах!

Для тых жа на Захадзе, у каго факт смерці Гітлера не выклікаў сумнення, прапаноўваўся іншы аспект гэтай «загадкі». Ён заключаўся ў тым, што з лёгкай рукі Гебельса і Бормана па свеце пайшла гуляць легенда аб «гераічнай смерці фюрэра», які нібыта загінуў на чале войск, што змагаліся, або, прынамсі, загінуў «афіцэрскай смерцю» — застрэліўся так, як прадпісвае кодэкс гонару прускага афіцэра. Маўляў, у адрозненне ад баязліўца Гімлера і пазёра Герынга, якія прынялі яд...

У савецкай ваенна-гістарычнай літаратуры і публіцыстыцы гэтаму пытанню доўгі час недастаткова ўдзялялася ўвагі. Прычыны гэтага цяжка вызначыць, і яны, відаць, у першую чаргу былі звязаны з тым, што вельмі вялікая пагарда любога савецкага чалавека да лёсу «злачынца нумар адзін», каб займацца ім. Відаць, гэтым і тлумачыцца з'яўленне ў нас недастаткова абгрунтаваных і недакладных версій, якія, у сваю чаргу, былі падхоплены заходняй прапагандай для таго, каб сеяць сумненне ў самім факце самазабойства Гітлера.

Мы павінны быць удзячны пісьменніцы Алене Ржэўскай, — удзельніцы баёў за Берлін, — за тое, што на старонках сваіх успамінаў яна ўпершыню расказала, аб тым, якім чынам быў знойдзены і ідэнтыфікаваны труп Гітлера. Дарэчы, гэты расказ неадкладна падвергся атакам з заходнегерманскага боку. Тым больш адчувальнай рабілася для мяне патрэбнасць поўнасцю паставіць яе на **дакументальную базу**.

З самага пачатку агаворымся, што ў красавіку 1945 года ўсё было не так ясна, як гэта выглядае сёння, у 1970 годзе. У 1945 годзе ў Маскве лічылі, што спадзявацца на афіцыяльную нацысцкую прэсу вельмі рызыкоўна: дакладных звестак аб месцазнаходжанні Гітлера ў савецкага камандавання да пачатку наступлення на Берлін не было. Больш або менш надзейныя пацвярджэнні таго, што Гітлер застаўся ў сталіцы, можна датаваць прыкладна дваццатым красавіка. Святкаванне дня нараджэння, у час якога Гітлер (у апошні раз!) выйшаў з бункера на паверхню зямлі, пацвердзіла, што ён застаўся ў Берліне.

# ТРЫБУНА чытачоў

### КУРСЫ

Павятовае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў у Бельску Падляшскім арганізоўвае шмат курсаў для скарбнікаў, старшынь рэвізійных камісій, трактарыстаў і дыспазітараў у сельскагаспадарчых гуртках. На такіх курсах людзі вучацца, як добра выконваць узложаныя на іх абавязкі. У мінулым годзе пашырыла свае веды 270 членаў праўленняў сельгасгурткоў, 112 скарбнікаў і 164 старшыні рэвізійных камісій. (сс)

### МБМ У БЯЛЯВІЧАХ

Міжгуртковая машынатрактарная база (МБМ) у Бялявічах (Беластоцкі павет) добра працуе. Належыць да яе амаль 130 гаспадароў з вёскі Меляшкі і яе хутараў, з Бялявіч і са Страшава, гэта значыць, з трох былых сельгасгурткоў. Працаю базы кіруе старшыня і дыспазітар Юльян Кахановіч. Дзякуючы добраму кіраўніцтву і добрай арганізацыі працы, МБМ штогод мае даходы, а кожны трактар выпрацоўвае па 1600 рабочагадзін у год. Машыны МБМ рамантуюцца на месцы. Ужо тры гады ладзіць іх каваль Анатоль Дарашкевіч, які мае ўсе неабходныя прылады, апрача такаркі. Добра падрыхтавалася бялявіцкая база да веснавых палявых работ. У гэтым годзе база хацела б пабудаваць гаражы на сельскагаспадарчыя машыны. Сама яна будаваць не мае дазволу, а знайсці выканаўцу — нялёгкая справа. I вось толькі таму частка машын нішчэе на пляцу МБМ.

*Янка Цялушэцкі*

### ДЛЯ СЛЯПЫХ ДЗЯЦЕЙ

25 красавіка студэнты з гуртка мастацкай самадзейнасці, які існуе пры варшаўскім аддзеле БГКТ, выступілі ў адукацыйна-выхаваўчым асяродку для сляпых дзяцей у Лясках. У праграме была інфармацыя на тэму «Беларусы ў Польшчы», якую прачытаў В. Швед. Потым чыталіся дзіцячыя вершы Віктара Шведа, а затым хлопцы спявалі беларускія песні. Цэласць праграмы вяла Л. Орда. Студэнтаў сустрэлі там вельмі цёпла.

*Валя Міхальчук*

### СЕМЯНОЎСКІ МАСТАЦКІ КАЛЕКТЫЎ

Добрую работу выконвае семяноўскі мастацкі калектыў. Ён не толькі прэзентуе прыгожыя беларускія песні. У яго праграме таксама знаходзяцца беларускія п'есы.

26 красавіка семяноўскія самадзейнікі выступілі ў Палічнай. Там, апрача песень, паказалі п'есу Янкі Купалы «Прымакі» . 27 красавіка выступілі яны ў сваёй вёсцы з новай праграмай. Калектыў гэты паказаў п'есу Юркі Геніюша «Вываражыла», спяваў новыя песні, дэкламаваў беларускія вершы і скетчы. Як у Палічнай, так і ў Семяноўцы пасля выступленняў самадзейнікаў пачыналіся танцы для моладзі.

*Віктар Бура*

### ЗЯЛЁНЫЯ ЎГОДДЗІ

Сенажаці, пашы і лугі займаюць у Гайнаўскім павеце 34,3% усіх зялёных угоддзяў. Налічваецца іх 27 тысяч гектараў. З гэтага 9135 га меліяравана. Гаспадары зараз атрымоўваюць значна вышэйшыя ўраджаі сена, што моцна прычынілася да павелічэння гадоўлі быдла.

У загаспадаранні і кансервацыі зmembers меліяраваных сенажацей вялікую ролю адыгрываюць водныя суполкі, якіх на Гайнаўшчыне ёсць 22. З імі сельскагаспадарчыя гурткі добра супрацоўнічаюць. Супольна апрацоўваюць планы кансервацыі меліярацыйных равоў і супольна загаспадарваюць пашы і лугі.

*Віталіс Назарук*




*Еля з Бельшчыны.* «Мне 15 год. Вучуся ў VIII класе. Вучуся на пяцёркі і чацвёркі. У нашым класе ёсць В. Мне ён вельмі падабаецца, ён таксама добра вучыцца. Мусіць не ведае, што я яго кахаю. Парай, што зрабіць: ці сказаць яму, што яго кахаю, ці чакаць далей.»

*Еля!* Разумею цябе, аднак раю ў ніякім выпадку не гаварыць, можаш нарабіць сабе прыкрасці, бо ў большасці хлопцаў у тваім узросце не родзяцца пачуцці да дзяўчынак, а марацць яны пра далёкія падарожжы, пра прыгоды. А найлепшым доказам тваіх пачуццяў да В. будзе тое, калі ты пачнеш вучыцца яшчэ лепш, на адных пяцёрках, калі ў навуцы перавысіш В. Тады і ты будзеш задаволена, і В. зверне на цябе ўвагу, як заўсёды на выдатнікаў.

*Елянта з Беластока!* У кожнай драгерыі, скажы толькі, што хочаш купіць крэм супраць вяснушак (пегаў), дык і атрымаеш яго. Я раю табе, калі маеш магчымасці, дык купі савецкі супрацьвяснушкавы крэм «Метамарфоза». Вельмі добры.

*Пётр з Бельскага павета!*

Трэба сістэматычна чытаць «Ніву» і куток «Сардэчныя тайны». Мы на гэтую тэму многа пісалі, таму раю табе перагляпуць нумары «Нівы» з 1970 і 1969 года.

*Ніна з Гайнаўшчыны!* На жаль, мы не можам табе дапамагчы ў тваёй справе. Раю звярнуцца да лекара-інтэрністы, адкуль і атрымаеш уласцівую фаховую параду.

*Вера з Гайнаўшчыны!* Просім падаць нам дакладны адрас, пастараемся ў меру нашых магчымасцей, дапамагчы.

*Сэрцайка*

*З жыцця беларускіх ліцэяў*

### У БЕЛЬСКУ

Бельск Падляшскі, вуліца Каперніка 4 — гэта адрас будынка, на якім ад вуліцы прымацавана шыльда «Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску».

1 Мая выгляд нашага школьнага будынка моцна змяніўся. У гэты дзень быў ён святочна прыбраны як з вонку, так і ў сярэдзіне. Над ім калыхаліся на ветры чырвона-белыя сцягі, над дзвярыма вісела вялікае палотнішча з постаццю Леніна. 30 красавіка адбылася першамайская ўрачыстасць. Спачатку ў некалькіх словах дырэктар школы Мікалай Гайдук падкрэсліў значэнне гэтага дня. Затым вучань II класа Васіль Таранта прачытаў даклад, у якім можна было пачуць многа цікавага аб святце працоўных. На заключэнне адбылася артыстычная частка, якую падрыхтавалі вучні ўсіх класаў.

* ✲ *

Наша настаўніца Галіна Карпюк узяла на сябе абавязак стварэння драматычнага гуртка ў ліцэі. Ён ужо існуе. Першым выступленнем яго была камедыя «Вуй з Амерыкі». *Вера Ахрымюк*

### У ГАЙНАЎЦЫ

30-га красавіка адбылася таксама першамайская акадэмія ў Гайнаўскім беларускім ліцэі. Даклад чытаў вучань II класа Віталіс Янцэвіч. Потым адбылася мастацкая частка, якая складалася з першамайскіх песень і вершаў. Моладзь падрыхтавала іх пад кіраўніцтвам настаўніцы Элізы Кшэўскай.

*Люба Янцэвіч*

* ✲ *

2-га мая ў Гайнаўскім беларускім ліцэі адбыўся сход гуртка Саюза вясковай моладзі. На ім было прынята больш 30 новых членаў. Старшыня павятовага праўлення ЗМВ Ян Казлоўскі усім ім уручыў членскія білеты.



Ян Казлоўскі ўручае членскі білет найлепшай вучаніцы школы Марысі Казлоўскай.

Тэкст і фота

*Віктар Бура*

### БЕЛАРУСЫ Ў ЛЮБЛІНЕ

**У Любліне** ў вышэйшых школах вучыцца шмат беларускай моладзі з Гайнаўскага, Бельскага і Беластоцкага паветаў. Ёсць там таксама навуковыя працаўнікі — выхадцы з Беласточчыны. Беларуская моладзь групуецца там пакуль што пры Украінскім грамадска-культурным таварыстве. Але гэта, як ужо сказана, пакуль што. Студэнты з Любліна звярнуліся да Галоўнага праўлення БГКТ, каб прыехалі прадстаўнікі ГП да іх на арганізацыйны сход гуртка БГКТ, які мае шанцы ў будучыні ператварыцца ў аддзел БГКТ. (сс)

---

Нашы войскі ўварваліся ў рэйхстаг 30 красавіка, імперскую ж канцылярыю захапілі толькі раніцай 2 мая, але ў гэты невялікі адрэзак часу ўкладаліся сапраўды драматычныя падзеі. У ноч на 1 мая (прыкладна ў 23 гадзіны) лінію фронту паблізу імперскай канцылярыі перайшоў нямецкі парламенцёр, які паведаміў: начальнік германскага геншатаба генерал Крэбс жадае перадаць савецкаму камандаванню паведамленне асаблівай важнасці! На досвітку Крэбс быў дастаўлены да камандуючага 8-й гвардзейскай арміяй генерал-палкоўніка В. І. Чуйкова. Крэбс паведаміў, што Гітлер скончыў самагубствам, а Гебельс і Борман хацелі б уступіць у перагаворы...

Перагаворы? На гэта з Масквы быў атрыманы адказ: ніякіх перагавораў, толькі капітуляцыя! Крэбс дачакаўся гэтага адказу, які яму даў намеснік камандуючага фронтам генерал арміі В. Д. Сакалоўскі, які прыбыў да Чуйкова. Крэбс пайшоў, каб перадаць гэта сваім начальнікам — Гебельсу і Борману (гэта было ў 13 гадзін 08 мінут 1 мая), а у 18.00 прыйшоў чарговы парламенцёр з адказам: не, завадатаі «трохспалавіннага рэйха» не жадаюць капітуляваць.

Тады была пачата апошняя аперацыя: яна працягвалася нядоўга, бо ў ноч на 2 мая рэшткі гарнізона рэйхсканцылярыі паспрабавалі прарвацца на захад, а начальнік усяго берлінскага гарнізона генерал Вейдлінг на світанні 2 мая аддаў загад аб безагаворачнай капітуляцыі. Непасрэдна ў раёне імперскай канцылярыі бой працягваўся таксама нядоўга.

Якія звесткі мелі тыя савецкія афіцэры, якія 2 мая апынуліся ў садзе імперскай канцылярыі? Ці маглі яны лічыць, што Гітлер ужо мёртвы? Сёння, аналізуючы ўсе архіўныя дакументы, мы ведаем, што ў распараджэнні вышэйшага савецкага камандавання 1-га і 2 мая ўжо быў цэлы шэраг сведчанняў аб смерці Гітлера. У прыватнасці было пасведчанне афіцыяльнае. Яно належала пяру Гебельса і Бормана і змяшчалася ў іх пісьме, перададзеным на імя І. В. Сталіна ў ноч на 1 мая 1945 года генералам Крэбсам.

Я асабіста меў магчымасць трымаць гэтае пісьмо ў руках, калі на світанні 1 мая мяне, афіцэра штаба І-га Беларускага фронту, выклікалі да камандуючага фронтам маршала Жукава. Начальнік штаба І-га Беларускага фронту генерал-палкоўнік Малінін даў мне некалькі лісткоў невялікага фармату з тэкстам, надрукаваным ненатуральна вялікімі літарамі. Як потым мы даведаліся, гэта была ўласная машынка Гітлера: ён дрэнна бачыў, але не хацеў насіць на людзях акуляры. Таму дакументы друкаваліся на спецыяльнай пішучай машынцы. На гэтай жа машынцы было надрукавана пісьмо на імя І. В. Сталіна, у якім паведамлялася, што Гітлер «пакінуў гэты свет».

Я адразу перакладаў тэкст з нямецкай на рускую мову. Маршал Жукаў, які сядзеў ля вялікай карты, слухаў уважліва, перапытваючы некаторыя месцы, якія здаваліся яму падазронымі (у прыватнасці, фразу, у якой аўтары пісалі, што паведамляюць Сталіну аб смерці Гітлера «першаму не з немцаў»). Тэкст пісьма фраза за фразай перадаваўся па тэлефоне ў Маскву, дзе на другім канцы провада знаходзіўся дзяжурны генерал Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання. Як я потым даведаўся, усё гэта было неадкладна далажана Вярхоўнаму Галоўнакамандуючаму І. В. Сталіну.

Я не магу сказаць, што на світанні 1 мая 1945 года ў тых, хто чытаў пісьмо Гебельса і Бормана, была поўная ўпэўненасць у яго праўдзівасці. Таму я вельмі сумняваўся, што звесткі аб пісьме былі перададзены ў 3-ю ўдарную армію, афіцэры якой апынуліся першымі на тэрыторыі імперскай канцылярыі і заняліся там пошукамі. Матэрыялы, перададзеныя Крэбсам, папалі са штаба 8-й гвардзейскай арміі ў рукі камандавання фронтам і потым — у Стаўку. У той час гэта былі дакументы сакрэтнага характару і, вядома, з імі не знаёмілі войскі. Ды і практычна гэта было немагчыма.

2 мая быў затрыманы ўжо знаёмы нам Ота Гюншэ, які даў падрабязныя паказанні аб смерці Гітлера. Але ён быў затрыманы на ўскраіне Берліна (таксама па-за паласой 3-й ударнай арміі), і гэтыя паказанні сталі вядомы толькі пазней. Што датычыць затрыманых у раёне імперскай канцылярыі, то іх паказанні былі вельмі цьмяныя.

У гэтай абстаноўцы — даволі незразумелай, але над якой доўга раздумваць не было часу — савецкая контрразведка, на якую лягла задача адшукаць верхаводаў рэйха, пачала выкананне гэтай задачы. Івану Ісаевічу Кліменку — начальніку аддзела контрразведкі 79-га стралковага корпуса, яго афіцэрам і салдатам выпала яе пачатковая частка.

*(Працяг будзе)*

**УСЕ ВУЧНІ ПАДПІСВАЮЦЬ «НІВУ» НА ЛЕТА!**
**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА ДА 10 ЧЭРВЕНЯ.**

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„BS. 38-15" (NRD), 2—3. „W królestwie ducha gór" (jugosł.), 4—5. „Kalejdoskop" (angl.), 6—7.

**Дубіны**
„Kapryśne lato" (czeski), „Tylko jedno życie" (radz.), 6—7.

**Нарва**
„Między wrześniem a majem" (polski), „Stawka większa niż życie" (polski), 3—7.

**Нараўка**
„Żyrafa w oknie" (czeski), „Kalejdoskop" (angl.), 6—7.

**Чыжы**
„Biały pokój" (czeski), „Człowiek z M-3" (polski), 3—7.

**Дубічы Царкоўныя**
„63 dni" (polski), „Wyzwanie dla Robin Hooda" (angl.), 3—7.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Partyzant z Lilejskiej góry" (jugosł.), „Stawka większa niż życie" (polski), 3—7.

**Орля**
„Kochać jak Romeo" (jugosł.), „Siedem razy kobieta" (włoski), 3—7.

**Райск**
„Kocham cię" (radz.), „Stawka większa niż życie" (polski), 3—7.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**
„Protegowany" (jugosł.), 2—3. „Zwiadowca" (radz.), 4—5. „Nie wspominać o przyczynie śmierci" (jugosł.), 6—7.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Zjazd rodzinny" (węgierski), „Zakochana wiedźma" (włoski), 3—7.

**Янаў**
„Mściciel z przeklętej góry" (jugosł.), 3—7.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Porucznik jazdy" (radz.), 2—3. „Operacja Belgrad" (jugosł.), 4—5. „Na miłość nigdy nie jest zapóźno" (węgierski), 6—7.

**Мельнік**
„Siódmy rok miłości" (jugosł.), 2—3. „Uzurpatorzy" (węgierski), 4—5. „Szczęśliwy Aleksander" (jugosł.), 6—7.

**Мілейчыцы**
„Gra bez reguł" (czeski), 2—3. „Galia" (franc.), 4—5. „Szczęśliwy Aleksander" (jugosł.), 6—7.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухавола**
„Znicz olimpijski" (jugosł.), „Naczelnik Czukotki" (radziecki), 3—7.

**Новы двор**
„273 dni poniżej zera" (polski), „Zabawa w masakrę" (franc.), 6—7.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 7.392 W-3

Нёяк зайшоў я да Івановых.

— Слухай, ты яшчэ нашага Пецьку не бачыў? — закрычаў Іваноў, схапіў мяне за руку і адразу ж з парога пацягнуў у другі пакой.

— Я ўжо бачыў, бачыў яго! Месяц назад бачыў, два тыдні назад бачыў, — заенчыў я, спрабуючы выкруціцца ад маладога таты.

— Два тыдні? — жахнуўся ён. — Значыцца ты не ведаеш, што ён ужо «аў» гаворыць?

— Зноў ты ўсё пераблытаў, любы, — прыбегла з кухні жонка Іванова, — зусім не «аў», а «уа». Але. каб вы ведалі, як гэта прыгожа ў яго атрымліваецца.

# БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

На іх тварах было столькі захаплення, што я быў вымушаны засведчыць, што гэта сапраўды вельмі таленавіты хлопчык, — маўляў, не трэба сумнявацца, што з такім талентам можна будзе шмат чаго дабіцца ў жыцці. Увесь астатні час тата безупынна расказваў пра гэтае цудоўнае дзіця. Выйшаў я ад іх знясілены, з галаўным болем.

Праз месяц забег на хвілінку да Пятрова. І калі ўжо выходзіў, неяк знянацку спытаў пра здароўе Вовачкі, яго сына. Толькі потым я зразумеў, што зрабіў найвялікшую памылку.

Я выбраўся ад Пятровых праз тры гадзіны. Але што гэта былі за гадзіны! Спачатку мне прадэманстравалі Вовачку цалкам, потым па частках, і трэба было кожную мінуту згаджацца, што ў яго сапраўды вельмі прыгожыя валосікі, што такіх пальчыкаў я яшчэ ні ў каго не бачыў. Потым Пятроў запэўніваў мяне, што Вовачка яшчэ і спявае. Тата біўся ля калыскі з паўгадзіны, але Вова маўчаў, кусаючы вялікі палец на назе. Раптам ён закрычаў — прыбегла маці і выцягнула з-пад Вовачкі мокрыя пялёнкі.

Калі мяне запрасілі да сябе Сідаравы, я задумаўся. У іх ёсць таксама дачка. Праўда, яна ўжо скончыла першы клас. «Можа абыдзецца», — падумаў я і пайшоў.

Я спазніўся, госці сядзелі ўжо за сталом і размаўлялі. Правільней было б сказаць, што гаварыла толькі маці:

— Вы ведаеце, яна адна, толькі адна рашыла гэты прыклад. Нават настаўніца сказала: «Ірачка, ты будзеш вялікім матэматыкам».

Ірачка сядзела вельмі задаволеная. Нейкі таварыш з другога канца стала спытаў:

— Ірачка, а колькі будзе, калі да двух дадаць восем?

Ірачка падумала-падумала і сказала:

— Дзесяць.

Тут усе госці і ахнулі: ведае!

Я прыйшоў дамоў, зазірнуў у кухню, у спальню, — Генкі нідзе не было.

— Гена, — пазваў я, — хадзі сюды.

З-пад ложка вылез мой сын і недаверліва паглядзеў на мяне.

— Колькі ты атрымаў сёння двоек?

— Адну, — адказаў Гена і палез зноў пад ложак.

— Пачакай, — спыніў я яго, — колькі будзе, калі да двух дадаць восем?

Гена задумаўся, нават палец выняў з носа і адказаў:

— А мы гэтага яшчэ не праходзілі.

І дадаў:

— А затое я магу па-кошкінаму мяўкаць. Паказаць?

— Ну давай, — згадзіўся я, падумаўшы, што мяўкаць па-кошкінаму — гэта таксама нядрэнна.

— Аддам цябе, калі вырасцеш, у цырк, — праслухаўшы, сказаў я сыну, а сам падумаў: «Трэба будзе таксама гасцей сабраць. Гэта вам не «аў» і не 2+8!

*А. Аляксейчык*

# НІЎКА

— Дзядзечкі! Тут карова не праходзіла, рыжая такая, з падпалінамі?

## КАЗКІ

Маленькі Пятрусь: — Мама, а казкі заўсёды пачынаюцца з «Аднойчы...»?

Мама: — Не, мілы, не заўсёды. Часам яны пачынаюцца з «Дарагая, я крыху затрымаюся на працы...»

*Страшная помста.*

## Галаваломка

Прадстаўленая на рысунку фігура складаецца з многіх трохкутнікаў. Паспрабуйце іх падлічыць.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

### НА ПРАГУЛЦЫ

Маленькі хлопчык, гуляючы з бацькам, сустракае стада кароў.

— Не бойся, — кажа бацька, — гэта каровы. Ты часта ясі іх мяса.

— Так, але гэтыя каровы не вараныя.

### У ПСІХІЯТРА

Бацька хлопчыка, занепакоены слабым развіццём сына, паказаў дзіця псіхіятру. Той засыпаў хлопчыка кантрольнымі пытаннямі: «Колькі вушэй у ката? Колькі лап? Які ён выдае гук?» і г.д. Хлопчык, якому надакучыла адказваць, звяртаецца да бацькі:

— Няўжо гэты крэтын ніколі не бачыў ката?

# СФЕРЫ ЎПЛЫВУ

Сферы ўплыву падзялілі:
Тату — Ваня, маме — Ліля.
— Мы іх выхаваць павінны,
Як ніхто, нідзе пакуль.
Ты адказваеш за сына!
Я ў адказе — за дачку!
Год прайшоў ці паўтара —
Паглядзець, бадай, пара.
Як ідзе ў іх выхаванне,
Як растуць іх Ліля, Ваня.
Возьмем дзень адзін, калі
Дома ўсе яны былі.
К маме Ліля падбягае:
— Ваня б'ецца... Ой! Ой! Ой!
Мама Ваню прабірае:
— Ах, тыран! Дзе дубчык мой?
Сын да таты падбягае:
— Ліля б'ецца... Ой! Ой! Ой!
Тата Лілю прабірае:
— Ах, дзяркач! Дзе рэмень мой?
Мама просіць: — Ваня, мыла,
Калі ласка, мне падай...
А сыночак: — Твая Ліля
Падае табе няхай!
Тата просіць: — Ліля, чуеш?
Прынясі мне малаток...
А дачушка: — Не хачу я!
Хай прыносіць твой сынок!
Плача Ліля. Плача Ваня.
Тата з мамай — на нажах.
— Што ў цябе за выхаванне?
— А ў цябе? Суцэльны жах!

*Іван Мураўейка*

*Добры акварыум?*

### НЕ ВЕДАЛА

У гасцях маленькая дзяўчынка пачала прасіць яшчэ кавалачак торту. Гаспадыня гаворыць:

— Мілая, ці ж твая мама не гаварыла табе, што добра выхаваная дзяўчынка не просіць дабаўкі?

— Гаварыла, але яна не ведала, што кавалачкі будуць такія маленькія!

### ЧАМУ

—Хлопчык, чаму ты стаіш пад дажджом? Ты ўвесь вымак.

— Я ўцёк з хаты: мяне хацелі выкупаць.

### ПРОСЬБА

На выпускным вечары ў інстытуце юнак дзякуе выкладчыку французскай мовы.

— Дзякую, я вам вельмі ўдзячны. Калі я магу вам аказаць якую-небудзь паслугу, скажыце, калі ласка.

— Я вас вельмі прашу, — адказвае выкладчык, — нікому не кажыце, што вы вывучалі французскую мову ў мяне.

### КАЛІ

— Калі ты нарэшце выправіш сваю двойку?

— Што я магу зрабіць, тата, — журнал захоўваецца ў настаўніцкай...

— На чым ты рысуеш, трагладзіт паршывы? Табе, што, на сценах месца мала?

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Тамары С., Ліды і Яўгенія С. з вёскі Плюшчы, Бельскага павета, Ларысы, Люсі, Ніны, Надзі, Марысі з Кузавы Гайнаўскага павета, а таксама вучняў VII і VIII класаў пачатковай школы ў Крывой, Бельскага павета, змяшчаем песню.

# Dozwolone od lat osiemnastu

Słowa: K. Dzikowski, K. Winkler
Muzyka: Seweryn Krajewski

Nie możemy iść dzisiaj do kina,
„dozwolone do lat osiemnastu”,
mówić: „chłopiec mój, moja dziewczyna”,
„dozwolone do lat osiemnastu”.
Czy mi wolno zakochać się w tobie,
w twym uśmiechu i w twych oczu blasku,
czy ktoś głosem surowym nie powie:
„dozwolone od lat osiemnastu”?

Taki refren powtarza starszy brat:
„dozwolone od osiemnastu lat”!
Już po nocach się śni, już każdy zgadł:
„dozwolone od osiemnastu lat”!

Lecz możemy umówić się z wiosną:
„dozwolone do lat osiemnastu”,
śmiać się, śpiewać piosenki zbyt głośno,
„dozwolone do lat osiemnastu”.
W śnieżną bitwę zabawić się zimą,
„dozwolone do lat osiemnastu”.
Mówić „serwus” do swojej dziewczyny,
„dozwolone do lat osiemnastu”.

Nowy refren powtarza wszystkim wiatr:
„dozwolone do osiemnastu lat”!
Już po nocach się śni, już każdy zgadł:
„dozwolone do osiemnastu lat”!

Czas ucieka, choć nikt go nie goni,
wkrótce drogę wybierzesz już własną
i niedługo przestanie ci grozić
„dozwolone od lat osiemnastu”.

Ale choćbyś przekroczył trzydziestkę,
gdy pewnego dnia kiepski masz nastrój,
to rób wszystko, co tylko na świecie
dozwolone do lat osiemnastu...

— Добры дзень, ці магу пабавіцца з Марцінкам?

# Курʼёзы

*Непажаданая асоба*

Пад націскам грамадскай апініі прэфект швейцарскай паліцыі вымушаны быў адкликаць загад высялення двухмесячнага дзіцяці адной італьянкі, якая жыве ў Жэневе. Прычынай такога загаду было тое, што тая італьянка не венчаная з бацькам дзіцяці, які з'яўляецца таксама італьянцам і таму не можа атрымаць разводу з першай жонкай. Справа нашумела, а спакойныя швейцарскія газеты ацанілі паступак прэфекта як непраўдападобны скандал.

*Не ўмешвайцеся!*

Ля ўваходу на пляцоўку дзіцячых гульняў у адным з лонданскіх паркаў павесілі таблічку з наступным заклікам да бацькоў: «Калі дзеці вядуць сварку, раім бацькам не ўмешвацца ў яе. Найчасцей сварка паміж вашымі дзецьмі хутка канчаецца, у той час, калі бацькі далей сварацца, а нават робяць авантуры».

*Штучныя нянькі*

У СССР сканструявана «электронная нянька». Гэты апарацік, велічыні папяросніцы, паложаны ў ложачку спячага дзіцяці, галосным сігналам б'е трывогу, калі толькі змокнуць пялюшкі.

*Рэкорды*

Неафіцыйны сусветны рэкорд па чыханню ўстанавіў 13-гадовы амерыканскі хлопчык з г. Мэрэй, штат Юта, Джэф Сімпер. За 18 дзён ён чыхнуў запар больш як 17 тысяч разоў, што ў сярэднім складае 2 чыханні ў мінуту. Толькі калі спаў, — а сон выклікалі ў яго пры дапамозе лякарстваў, — ён на некаторы час спыняў чыханне.

*Слоўнік анёлаў*

Свет не павінен ужо мець сумненняў наконт ліку анёлаў: амерыканскі тэолаг Густаў А. Дэвідсан апублікаваў «Слоўнік імёнаў анёлаў». У ім імёны і кароткія біяграфіі ўсіх анёлаў, якія выступаюць у Біблії.

## Міжэ намі

*Пускаць бурбалкі — дзіцячы занятак. Чаму ж гэтым займаюцца найчасцей дарослыя?..*